I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Ліпень-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Толькі праз чатыры гады Гомельскі хімзавод прызнаў, што былы рабочы атрымаў вытворчую траўму




стар. 2

# Толькі праз чатыры гады Гомельскі хімзавод прызнаў, што былы рабочы атрымаў вытворчую траўму

***Больш за чатыры гады спатрэбілася былому рабочаму ААТ «Гомельскі хімзавод» Аляксандру Клімаву, каб дабіцца ад прадпрыемства складання акта формы Н-1 — «Акта аб няшчасным выпадку на вытворчасці».***

Траўму жыхар Гомеля атрымаў на родным прадпрыемстве 19 траўня 2011 года, а толькі 29 чэрвеня 2015 года завод склаў «Акт аб няшчасным выпадку на вытворчасці». Паміж гэтымі датамі – чатыры гады, змарнаваныя на напісанне скаргаў, наведванне ўстаноў кшталту Гомельскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы і іншых, мноства судовых паседжанняў. І ўсё гэта дзеля таго, каб даказаць відавочнае – рабочы атрымаў траўму на родным прадпрыемстве, у працоўны час, пры выкананні працоўных абавязкаў.

На ўсіх этапах барацьбы з сістэмай былому рабочаму дапамагаў праваабаронца, прававы інспектар прафсаюзу РЭП па Гомельскай вобласці Леанід Судаленка.

«Пасля атрымання акту Н-1, па сутнасці, мы дабіліся прызнання траўмы вытворчай, адпаведна, згодна закону аб страхаванні, у Аляксандра Клімава з'яўляецца магчымасць звярнуцца ў «Белдзяржстрах», і ён можа атрымаць страхавыя выплаты. Чатыры гады пайшло на тое, каб даказаць відавочнае. Але я лічу, што гэта перамога Аляксандра Клімава над усёй сістэмай. Адзін чалавек паказаў, што калі не спяшацца прызнаваць сваю паразу і змагацца з сістэмай, то у прынцыпе можна атрымаць пазітыўны вынік», - пракаментаваў праваабаронца.

Сам былы рабочы нават не ведае – радавацца яму ці журыцца зараз.

«Бо яшчэ невядома, што будзе з выплатамі, і акт так складзены, што не пазначана нічыя віна за тое, што я застаўся інвалідам. Да заключэння не прыклалі ніводнага дакумента», - адзначыў Аляксандр Клімаў.




Гісторыя пачалася ў траўні 2011 года. Апаратчык абпалу ААТ «Гомельскі хімзавод» Аляксандр Клімаў, знаходзячыся на працоўным месцы, зайшоў на эстакаду разгрузкі, адчуў пах серы, страціў прытомнасць і ўпаў з вышыні. Ён атрымаў шматлікія траўмы, пераломы рэбраў, разрыў ўлоннага сучлянення, траўматычны сімфізіт. Але на прадпрыемстве быў складзены акт аб невытворчай траўме. Наймальнік спаслаўся на медыцынскае заключэнне завадскога медпункта аб тым, што прычынай непрытомнасці стаў «хваравіты стан», паколькі калісьці працоўны звяртаўся па кансультацыю ў кардыялагічны дыспансер з нагоды павышанага ціску.

Разам з тым, упраўленне аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама і Міністэрства аховы здароўя ў адказах на звароты Аляксандра Клімава напісалі, што магчымыя прычыны страты прытомнасці работнікам падчас няшчаснага выпадку дакладнымі медыцынскімі дадзенымі не пацверджаныя і з'яўляюцца толькі меркаваннем галоўнага лекара, выказаныя ў меркаванай форме. Працоўны рэгулярна праходзіў медыцынскую камісію, атрымліваў допуск да працы, на ўліку ў кардыялагічным дыспансеры не стаяў, а эскулапы лячэбнага ўчастка хімзаводу спасылаюцца на гіпатэтычныя здагадкі.

Прайшоўшы этап «кругоў пекла» - мноства судовых разглядаў, толькі праз чатыры гады, 17 лютага 2014 года Аляксандр Клімаў атрымаў пастанову Гомельскага абласнога суда, які абавязаў Гомельскае ўпраўленне інспекцыі па працы скласці акт формы Н-1, гэта значыць прызнаць траўму Аляксандра Клімава вытворчай.

*gomelspring.org*

# Падлетак з Жыткавічаў, які па-зверску забіў маці, будзе змешчаны ў закрытую псіхбальніцу

***Гомельскі абласны суд вынес пастанову па крымінальнай справе ў дачыненні да падлетка, які 28 лістапада 2014 года ў Жыткавічах забіў сваю маці. На момант забойства хлопцу было 16 гадоў, ён вучыўся ў 11-м класе.***

Як паведаміла прэс-сакратар Гомельскага абласнога суда, па рашэнні суда да абвінавачванага прыменены прымусовыя меры бяспекі і лячэння. Ён будзе змешчаны ў стацыянар псіхіятрычнай бальніцы са строгім назіраннем на тэрмін, які вызначаць урачы. Комплексная псіхіятрычная экспертыза паказала, што падлетак пакутуе на псіхічнае захворванне і ўяўляе асаблівую небяспеку для грамадства, таму мае патрэбу ў бальнічным утрыманні і лячэнні.

Нагадаем, 28 лістапада ў Жыткавічах падлетак нанёс сваёй маці шматлікія ўдары нажом, ад атрыманых ран жанчына памерла на месцы.

Цела 39-гадовай жанчыны з прыкметамі гвалтоўнай смерці знайшоў у кватэры яе муж, які і звярнуўся ў міліцыю. Па гарачых слядах быў затрыманы сын забітай, вучань 11-га класа.

Устаноўлена, што 28 лістапада ў 15.30 школьнік падчас сваркі з маці нанёс ёй не менш як пяць удараў кухоннай сякерай у галаву, а затым не менш як 10 удараў нажом у грудзі і ў жывот.

Падлетак прызнаўся ў тым, што зрабіў, растлумачыў забойства крыўдай на маці. У дзень трагедыі яна дакарала сына за тое, што замест вучобы ён часта сядзіць за камп'ютарам і ў яго няма сяброў. Хлопец раззлаваўся і разбіў талерку аб сцяну, у адказ жанчына прыгразіла, што пазвоніць бацьку, і пайшла глядзець тэлевізар. Хутка ў пакой следам за маці ўвайшоў сын, які пачаў наносіць ёй удары кухоннай сякерай. Жанчына закрывалася рукамі і прасіла не чапаць яе. А калі выпаўзла, акрываўленая, у калідор, падлетак дабіў яе кухонным нажом.

Ён адзінае дзіця ў сям'і. У дзень гібелі яго маці, якая працавала медсястрой, была на бальнічным. Бацька працуе ў лясной гаспадарцы.

На ўліку хлопец не знаходзіўся, у школе яго характарызавалі станоўча.

*БелаПАН*




## У Добрушы патануў кітаец, які купаўся ў рацэ

***У Добрушы на рацэ Іпуць патануў ураджэнец Кітая, align рознарабочы. 38-гадовы мужчына нырнуў у раку і не вынырнуў, перадае МНС словы відавочцаў.***

Пра здарэнне распавёў прэс-сакратар Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Віталь Навіцкі.

Нагадаем, раней дзве сотні кітайскіх рабочых з Добруша пратэставалі супраць нявыплаты заробкаў і прыйшлі пешшу ў Гомель. Пасля канфлікт урэгулявала дыппрадстаўніцтва КНР.

*nn.by*

На Эйфелевай вежы стаяць амерыканец, швейцарац, немец і турак. Раптам амерыканец кідае з вежы кейс з грашыма.

- Што здарылася? Што ты робіш?

- У нас гэтага навалам, мне не шкада.

Тады швейцарац здымае з рукі свой дарагі гадзіннік, аздоблены дыямантамі, і таксама кідае яго з вежы.

- У нас іх дахалеры, мне не шкада.

Турак спалохана глядзіць на немца і кажа:

- Нават не думай пра гэта!

# У Гомелі завершанае расследаванне справы маці, якая ўтапіла дваіх дзяцей у ваннай

***Ва ўпраўленні Следчага камітэта па Гомельскай вобласці завершанае расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 25-гадовай гамяльчанкі, якая абвінавачваецца ў забойстве сваіх малых дзяцей.***

Як паведамляе УСК па Гомельскай вобласці, падчас папярэдняга расследавання ўстаноўлена, што 7 красавіка вечарам жанчына прымала ванну разам з двухгадовым сынам. Кіруючыся раптоўным намерам пазбавіць малое жыцця, яна пагрузіла дзіця ў ваду ў ванне і ўтрымлівала пад вадой да наступлення яго смерці. Затым прынесла з іншага пакоя ў ванную сваю дачку 2014 года нараджэння і ўтапіла яе.

Пасля ўчынення гэтых дзеянняў жанчына прыбрала ў кватэры, затым дастала целы дзяцей з вады, перанесла ў іншы пакой, апранула іх і патэлефанавала ў міліцыю.

Па крымінальнай справе праведзены комплекс следчых дзеянняў, у тым ліку допыты сведак, следчы эксперымент на месцы здарэння з удзелам маці, прызначаны і праведзены шэраг экспертыз.

Паводле заключэння стацыянарнай комплекснай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, у абвінавачанай у перыяд часу, які адносіцца да інкрымінаванага ёй дзеяння, дыягнастуецца дысацыяльнае расстройства асобы. Эксперты ўстанавілі, што у той перыяд часу жанчына не знаходзілася ў стане афекту, магла разумець фактычны характар сваіх дзеянняў і кіраваць імі.

Следства кваліфікавала дзеянні абвінавачанай на падставе пп. 2, 6, 16 ч. 2 арт. 139 КК (забойства малалетніх, учыненае з асаблівай жорсткасцю).

*БелаПАН*




# У жыхара Мазыра канфіскавана каля 2000 літраў алкаголю

***Работнікамі інспекцыі МПЗ па Мазырскім раёне сумесна з супрацоўнікамі праваахоўных органаў устаноўлены факт незаконнага захоўвання жыхаром Мазыра ў прыватным домаўладанні 1575 літраў расійскай гарэлкі, а таксама віскі, тэкілы, брэндзі, рому і каньяку ў колькасці 154 літраў, не маркіраваных ва ўстаноўленым парадку акцызнымі маркамі Рэспублікі Беларусь.***

Паводле папярэдняй ацэнкі, кошт алкагольных напояў складае 332,1 млн рублёў.

Апрача таго, грамадзянін незаконна захоўваў прадукцыю з утрыманнем спірту ў поліэтыленавых каністрах без этыкетак на 12,1 млн рублёў.

Як паведамляе ІМПЗ па Гомельскай вобласці, алкагольныя напоі і вадкасць з утрыманнем спірту агульным коштам 344,2 млн рублёў арыштаваныя і канфіскаваныя. Матэрыялы праверкі накіраваныя ў суд для разгляду.

Парушальніку за незаконны абарот падакцызнай прадукцыі апрача канфіскацыі тавару пагражае штраф да 36 млн рублёў.

*БелаПАН*

Замест хогварцкіх заклёнаў Гары Потар мог бы выкарыстоўваць маркі грузінскіх вінаў:
- Сапераві!
- Кіндзмараулі!
- Хванчкара!

# Вясковец забіў маці і закапаў цела за гародам

***Чачэрскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу ў дачыненні да 27-гадовага жыхара вёскі Покаць па ч.1 арт.139 КК Беларусі, які падазраецца ў забойстве маці. Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.***

З сярэдзіны ліпеня 56-гадовая жанчына лічылася без вестак зніклай. Заява аб знікненні пенсіянеркі паступіла ў міліцыю ад дачкі. Па факце знікнення асобы была распачатая крымінальная справа.

«Пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі Чачэрскага РАУС выявілі дачыненне да знікнення вясковай жыхаркі яе сына. Падчас агляду яго домаўласніцтва праваахоўнікі знайшлі за гародам яму з целам. Згодна з папярэднім заключэннем эксперта, смерць жанчыны наступіла ад множных пераломаў костак твару, рэбраў, пераломy грудзіны. Для ўстанаўлення дакладнай прычыны смерці труп накіраваны для правядзення судова-медыцынскай экспертызы», — распавяла Марыя Крываногава.

Па непасрэдна ўзніклым падазрэнні ў здзяйсненні злачынства быў затрыманы сын загінулай, які падчас допыту даў прызнальныя паказанні. Увечары 30 чэрвеня падазраваны, знаходзячыся па месцы жыхарства, пасварыўся з маці, якая прыйшла да яго, і збіў яе. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў жанчына памерла. На наступныя суткі сын закапаў яе цела.

Падазраваны заключаны пад варту. Расследаванне крымінальнай справы працягваецца.

*БелТА*

## У Мазыры прагулачны цеплаход з пасажырамі сеў на мель

***У Мазыры на рацэ Прыпяць прагулачны цеплаход «Смелы» сеў на мель. 13 пасажырам спатрэбілася дапамога ў эвакуацыі, паведамілі ў прэс-службе Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС.***

Інцыдэнт адбыўся 30 ліпеня каля 18.00. Выкарыстоўваючы катар і лодку, пасажыраў перавезлі на бераг. Пацярпелых няма. Пасля таго як эвакуацыя завяршылася, цеплаход без староннняй дапамогі сышоў з мелі і прыбыў на месца дыслакацыі ў парк Перамогі раённага цэнтра.

На рэках Гомельшчыны ўзровень вады цяпер ніжэй крытычных адзнак. З-за працяглай засухі рэкі абмялі практычна паўсюдна, таму на дадзены момант прыпынена грузавое суднаходства паміж партамі. Таксама зведзеныя да мінімуму рачныя прагулачныя маршруты.

*Паводле БелТА*




## Жыхарка Жлобіна спрабавала вывезці чатырох дзяўчат у рабства ў Іарданію

***Жыхарка Жлобіна падазраецца ў спробе вывазу ў Іарданію чатырох жыхарак Гомельскай вобласці для працоўнай эксплуатацыі. Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі.***

Жанчыну затрымалі 17 ліпеня. Паводле дадзеных аператыўнікаў, дзяўчат яна завербавала праз інтэрнэт. У Іарданіі беларускам трэба было займацца кансумацыяй ў начных клубах, то бок падахвочваць кліентаў купляць ежу, напоі і іншыя паслугі.

За працу кожнай дзяўчыны жыхарцы Жлобіна быў абяцаны ганарар у памеры $300 штомесяц. У дачыненні да жанчыны складзены адміністрацыйны пратакол па ст.12.7 КаАП, якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу ад 50 да 200 базавых велічынь.

*БелТА*

У Афрыцы не хапае вады, бо яна ўся ў нашых дыпломах.

# На чатырох запраўках Гомельшчыны спажыўцам недалівалі паліва

***Пра гэта паведаміў начальнік інспекцыі Ігар Цыганкоў.***

Наглядныя мерапрыемствы ў дачыненні якасці маторнага паліва, што рэалізуецца на АЗС Гомельскай вобласці, і тэхнічнага стану палівараздатачных калонак прайшлі на 17 аўтазаправачных станцыях пяці юрыдычных асоб: ААТ «Гомельтранснафта» Дружба «(Гомель), ЗТАА» ЛУКОЙЛ Беларусь «(Мінск), ТАА» ПКФ «Оракс» (Мінск), РДУП «Беларуснафта-Гомельаблнафтапрадукт» (Гомель), ПВУП «Алімп і К» (Петрыкаў). Ва ўсіх правераных прадпрыемствах рэалізоўвалася аўтамабільнае паліва вытворчасці ААТ «Мазырскі НПЗ». Паводле слоў Ігара Цыганкова, па выніках выпрабаванняў узораў паліва, адабраных на АЗС вобласці, неадпаведнасцяў па якасці паліва не ўстаноўлена.

Разам з тым, на чатырох аўтазаправачных станцыях трох юрыдычных асоб (ЗТАА «ЛУКОЙЛ Беларусь», РДУП «Беларуснафта-Гомельаблнафтапрадукт», ПВУП «Алімп і К») выяўленыя факты перавышэння дапушчальнай хібнасці палівараздатачных калонак пры водпуску паліва, што прыводзіла да недаліву паліва спажыўцу. Спецыялісты спынілі рэалізацыю аўтамабільнага паліва праз 11 палівараздатачных калонак, ужыванне якіх прыводзіла да парушэння правоў спажыўцоў. Максімальна выяўлены недаліў паліва выяўлены на АЗС ПВУП «Алімп і К» (Петрыкаў), дзе спажывец недаатрымліваў па 150 мл на кожныя 10 л запраўленага ў аўтамабіль бензіну.

Па выніках праверак на адказных службовых асобаў складзеныя пратаколы аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці.

*БелТА*

# ААТ «БМЗ» неэфектыўна выкарыстала больш за 200 млрд рублёў на закупку абсталявання

***Камітэт дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці праверыў ААТ «Беларускі металургічны завод» — кіруючая кампанія холдынгу «Беларуская металургічная кампанія» (ААТ «БМЗ») і ўстанавіў факты парушэння прадпрыемствам парадку выкарыстання паліўна-энергетычных рэсурсаў, а таксама неэфектыўнага выкарыстання ўласных сродкаў на рэалізацыю інвестыцыйных праектаў.***

Як паведамляе прэс-служба КДК Гомельскай вобласці, ААТ «БМЗ» неэфектыўна выкарыстала больш за 200 млрд рублёў уласных сродкаў, затрачаных у 2012 годзе на закупку абсталявання для рэалізацыі праекта «Комплексная рэканструкцыя пылагазаўлоўліваючай устаноўкі (ПГУ-1)». Абсталяванне да гэтага часу не выйшла на праектныя параметры па ачыстцы дымавых газаў ад дугавой электрасталеплавільнай печы (ДСП-1).

Таксама ў 2012—2013 гадах ААТ «БМЗ» з парушэннем нарматыўных прававых актаў ажыццяўляла вытворчасць асобных відаў прадукцыі без зацверджаных ва ўстаноўленым парадку норм расходу электраэнергіі на яе вытворчасць.

Акрамя таго, у 2012 годзе і студзені—маі 2015 года прадпрыемства дапусціла страты цеплавой энергіі ў магістральных цеплавых сетках.

Таксама ААТ «БМЗ» завысіла больш чым на 6 млрд. рублёў кошт стварэння вытворчасці сартавога пракату і будаўніцтва дробнасортна-дротавага стану ў выніку прыёмкі і аплаты фактычна не выкананых работ, а таксама работ і затрат, не прадугледжаных праектна-каштарыснай дакументацыяй. Пасля ўмяшання КДК гэтыя сумы былі выключаны з кошту будаўніцтва і вернуты на разліковыя рахункі ААТ «БМЗ».

Па выніках праверкі КДК вобласці разгледзеў пытанне аб прыцягненні ААТ «БМЗ» і яго службовых асоб да адміністрацыйнай адказнасці.

*БелаПАН*



Як правільна есці торт

# У Рэчыцкім раёне дабудаваная самая глыбокая нафтавая свідравіна ў Беларусі

***Спецыялісты вытворчага аб'яднання «Беларуснафта» завяршылі будаўніцтва самай глыбокай свідравіны на тэрыторыі Беларусі.***

Як пішуць на сайце аблвыканкама, галоўныя задачы будаўніцтва свідравіны — пошук пакладаў вуглевадародаў у адкладах міжсалявога комплексу і ацэнка перспектыў нафтагазаноснасці падсолевага і верхнепратэразойскага комплексаў у межах Перадрэчыцкай міжсалявой пасткі.

Фактычная глыбіня свідравіны, якая атрымала назву №1 Перадрэчыцкага радовішча, склала 6755 м (праектная — 6680 м). Для правядзення гэтых работ закупілі спецыяльнае абсталяванне, якое раней у краіне не выкарыстоўвалася. На бурэнне сышоў 901 дзень.




У цяперашні час геолагі вядуць апрацоўку дадзеных, атрыманых у ходзе бурэння, якія будуць апублікаваныя ў ліпені бягучага года.

Да нядаўніх часоў самай глыбокай лічылася свідравіна №9001 Геалагічная — 5553 м. Адзнага была дасягнутая 24 жніўня 2008 года.

*odsgomel.org*

# У Петрыкаўскім раёне 24-гадовы хлопец скінуўся з вышкі сотавай сувязі

***24-гадовы жыхар Петрыкаўскага раёна, якога з 12 чэрвеня шукалі міліцыя і валанцёры, скончыў самагубствам, скінуўшыся з вышкі сотавай сувязі.***

Як паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама Андрэй Мазепін, цела маладога чалавека знайшлі каля вышкі сотавай сувязі за горадам. Пры пошуку хлопца вывучаліся яго акаўнты ў сацыяльных сетках. Раней малады чалавек перапісваўся з сябрам з Германіі і выказваў намер знайсці высокую вышку і ўчыніць суіцыд.

Паводле слоў Мазепіна, пры загінулым знайшлі пашпарт, у якім быў запіс «прашу нікога не вінаваціць», а таксама паведамленне, што на вышцы застаўся чамаданчык з перадсмяротнай запіскай. Пра змест перадсмяротнай запіскі пакуль не паведамляецца. Праводзіцца праверка па факце гібелі маладога чалавека.

*БелаПАН*

# Рабочыя ўкраінскага цырка збілі жыхароў Мазыра

***Супраць хуліганаў распачалі крымінальную справу.***

Двое 21-гадовых украінцаў-супрацоўнікаў цыркавой кампаніі «Русолі» збілі дваіх жыхароў Мазыра ў канцы гастроляў у раённым цэнтры.

Як паведамляе тэлеканал «Мазыр», госці горада вырашылі наведаць мясцовы начны клуб і на ганку забаўляльнай установы высвятлялі адносіны з мазырчукамі праз дзяўчат.

Украінцаў затрымалі і даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

Цырк «Русолі» быў заснаваны ва Украіне, але ад 2007 года гастралюе ў Беларусі.

*nn.by*

Жыць трэба так, каб тваім імем назвалі сіндром.

# У Магілёве і Гомелі пабітыя тэмпературныя рэкорды, у Бабруйску выпала 40% месячнай нормы ападкаў

***Вялікімі кантрастамі характарызавалася надвор'е ў Беларусі днём 26 ліпеня.***

Калі ў Гродне слупок тэрмометра не змог падняцца вышэй за адзнаку плюс 19,8 градуса, то ў Брагіне (Гомельская вобласць) было зафіксавана 35,5 градуса, што ўсяго на 0,1 градуса менш за абсалютны рэкорд дня, устаноўленага ў 1936 годзе ў Васілевічах (Гомельская вобласць).

У самім Брагіне дзённы максімум перавышаны на 3,5 градуса (26 ліпеня 1963 года тут было плюс 32). Пабітыя рэкорды 52-гадовай даўніны ў двух абласных цэнтрах. У Магілёве паветра прагрэлася да 33,9 градуса (было 32), у Гомелі — да 34,3 (32,6).

Як сведчыць карта рэсурсу надвор'я meteoinfo.by, найбольшая колькасць ападкаў нядзельным днём выпала на паўднёвым захадзе і ў цэнтры Магілёўскай вобласці:

у Бабруйску — 35 мм, або 35 літраў вады на квадратны метр тэрыторыі (39,8% месячнай нормы, якая складае 88 мм), Клічаве — 26 мм (30,6%), Магілёве — 23 мм (26,7%).

Максімальная тэмпература паветра ў Мінску склала плюс 27 градусаў (рэкорд дня — 33,8 у 1936 годзе), ападкаў выпала 4 мм (4,4% ліпеньскай нормы).

*БелаПАН*




## ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# Форвад «Славіі» Дзяніс Лапцеў перайшоў у расійскае «Тосна»

***Клуб расійскай першай лігі «Тосна» заключыў пагадненне з нападаючым Дзянісам Лапцевым са «Славіі» (Мазыр).***

Пра гэта Sportbox.ru паведаміў галоўны трэнер каманды з Ленінградскай вобласці Яўген Перавяртайла.

23-гадовы форвард выступаў за «Славію» з 2010 года, забіў у 92 матчах 36 галоў. У апошні час Лапцеў стаў выклікацца ў зборную Беларусі — дэбютаваў у яе складзе ў нядаўнім таварыскім матчы з Расіяй.

*nn.by*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Ліпень-2 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA